Прачытай сам і перадай другому.

№ 22 (4582)

23 сакавіка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

ПАЛІТКУХНЯ

# Як будзем святкаваць Дзень Волі?

*На пачатку сакавіка БСДП (Грамада), рух «За Свабоду» і грамадская арганізацыя БНФ «Адраджэнне» падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне шэсця і мітынгу. Які адказ?*

Дзіўна, але на ўчарашні дзень ніякага афіцыйнага адказу Мінгарвыканкама аб забароне акцыі заяўнікі яшчэ не атрымалі. Затое кіраўнік Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама **Міхаіл Грыб** падрабязна выказаўся з нагоды правядзення акцыі . Вось які ліст днямі атрымала ад яго ГА БНФ «Адраджэнне»: *«Галоўнае ўпраўленне ўнутраных спраў Мінгарвыканкама, разгледзеўшы аферту аб заключэнні дагавора аб аказанні паслуг па ахове грамадскага парадку пры правядзенні масавага мерапрыемства «Шэсце і мітынг, прысвечаныя святкаванню 103-й гадавіны стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі: шэсце ад перасячэння пр-та Незалежнасці з вул.Я.Купалы да пл.Парыжскай камуны, 1; мітынг: на пляцоўцы перад Оперным тэатрам, па адрасе: пл.Парыжской камуны, 1», якая паступіла ў галоўнае ўпраўленне, паведамляе пра яе адхіленне з-за наяўнасці шэрагу аб'ектыўных прычын, якія цягнуць за сабой немагчымасць аказання такой паслугі з улікам заяўленых аферэнтам умоў.*

*Так, артыкулам 9 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997 №114-З «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» установлена забарона на правядзенне масавых мерапрыемстваў на адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў, судоў, органаў пракуратуры, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемствы вода-, цепла- і энергазабеспячэння, установы дашкольнай адукацыі, установы агульнай сярэдняй адукацыі).*

*У той жа час месцы правядзення заяўленых масавых мерапрыемстваў прымыкаюць да тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва.*

*Пры такіх абставінах, з улікам заяўленай колькасці ўдзельнікаў (да 10 тысяч), заклікаў у розных тэлеграм-каналах да правядзення несанкцыянаваных акцый, у тым ліку экстрэмісцкага характару, а таксама наяўнасці абмежаванняў, устаноўленых Законам, і неабходнасці мінімізацыі распаўсюджвання вострых рэспіраторных інфекцый, выкліканых COVID-19, ГУУС Мінгарвыканкама адмаўляе ў заключэнні дагавора аб аказанні паслуг па ахове грамадскага парадку на ўмовах, указаных у аферце».*

Заяўку на правядзенне акцыі з нагоды 25 Сакавіка ад БСДП падпісваў не старшыня партыі **Ігар Барысаў**, а ягоны намеснік **Аляксей Сігаеў.**

*«Для ўлады аднолькава дрэнны як забарона акцыі з нагоды Дня Волі, так і дазвол,* – выказвае сваё меркаванне Сігаеў. – *Мы прасілі Мінгарвыканкам, каб яны абавязалі міліцыю заключыць з намі дамову. Але атрымалася так, як атрымалася...»*

Дык ці будзе адзначаны Дзень Волі?

*«Па гэтым лісце становіцца ясна, што міліцыя кіруе Мінгарвыканкамам,* – гаворыць **Рыгор Кастусёў**. – *Міліцыя ў гэтым выпадку ўзяла на сябе вельмі вялікую адказнасць. Паводле закона, адмова альбо дазвол на правядзенне мерапрыемства знаходзяцца ў кампетэнцыі Мінгарвыканкама, а зусім не міліцыі. Менавіта Мінгарвыканкам, а не міліцыя павінен вырашаць пытанне пра законнасць запланаванага мітынгу. Задача міліцыі – ахоўваць парадак.*

*Зразумела, што ў гэтай вельмі складанай сітуацыі заклікаць людзей кудысьці ісці – гэта нават не адміністрацыйная, а крымінальная справа. Таму ў нас такая пазіцыя: кожны сумленны беларус павінен сам вырашыць, як ён адзначыць гэты дзень».*

ТЫМ ЧАСАМ

## Зянон ПАЗЬНЯК: «Публічнае святкаванне Дня Волі з выхадам на вуліцы трэба было адкласці»

*Старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ выказаўся ў «Фэйсбуку» наконт святкавання Дня Волі.*

«Зыходзячы з тактычных інтарэсаў, у абставінах рэпрэсіўнай антыбеларускай вайны публічнае святкаванне Дня Волі з выхадам на вуліцы трэба было адкласці, прадбачліва змяніць форму свята. Грамадства не падрыхтавана яшчэ да моцнага масавага выступлення ў гэты дзень. Выхад на вуліцу (не важна, у якой форме) будзе несвоечасовы і можа даць нагоду карнаму рэжыму пачаць пагром беларусаў. Менавіта на гэта разлічвае рэжым. Задзейнічаны ўсе карныя сілы.

У вайне вельмі важна правільна скарыстаць час, накапіць сілы, зберагчы армію дзеля рашучай перамогі ў будучыні. Наша армія – гэта наш народ. Перад такой задачай (як паказвае вопыт вайны) не існуе нічога вышэйшага, не ўлічваецца нічога сакральнага. Дзень Волі 25 Сакавіка ёсць сакральным нацыянальным святам. Тым не менш дзеля будучай перамогі неабходна карэктаваць традыцыі, адзначыць, напрыклад, гэты дзень сямейнымі міжлюдскімі ўрачыстасцямі, не выходзіць пад кулі, выйграць час.

У вайне за незалежнасць ЗША быў такі выпадак (бітва ля Трэнтана). Моцна пабітая армія Джорджа Вашынгтона адступіла за раку Дэлавэр. Гэта было перад нараджэннем Хрыстовым. Англічане спыніліся, каб адзначыць Раство. 25 снежня ўсе англічане святкавалі, пілі алкаголь. Вашынгтон сабраў свае пашкамутаныя сілы, ноччу пераправіўся праз Дэлавэр, знянацку напаў і разбіў п'яных святочных англічан ушчэнт. Шлях для наступлення быў адчынены. Бог дапамог не застольнікам рэлігійнай традыцыі, але смелым і разумным.

Выхад на вуліцы, аднак, цяпер спыніць не ўдасца ніякімі аргументамі. Моцна папрацавала прапаганда з боку квазіапазіцыі і агентуры, заклікаючы ўсіх да несвоечасовага масавага выхаду на вуліцы. Няма пакуль што адзінага нацыянальнага кіраўніцтва і адзінай беларускай арганізацыі нацыянальнага руху, выступаюць у Сеціве розныя ды тлумяць свядомасць людзей.

Стварэнне абарончых дружын – даўняя неабходнасць. Але ў сітуацыі рэпрэсіўнай вайны яно можа (і мусіць) быць пакуль што толькі дыскрэтнай справай. Гэта зразумела. Публічнага адкрытага аб'яўлення аб стварэнні дружыны з пазначэннем структур, раёнаў і асоб трэба асцерагацца, бо ў гэтым, як правіла, выяўляецца арганізацыйная методыка «канторы», якая заканчваецца арыштамі.

У гэтай сітуацыі, калі ўжо нельга перамяніць падзеі, ёсць розныя варыянты амартызацыі ўдару, пра якія не пажадана тут гаварыць (бо не публічная гаворка). Важна прасторавае пашырэнне прысутнасці людзей у горадзе, не канцэнтрацыя ў цэнтры Мінска, дакладнае вызначэнне зместу, пачатку і заканчэння акцыі ўганаравання гадавіны БНР.

Няхай жа сёлетняе адзначэнне Дня Волі будзе разумным і аб'яднае беларусаў вакол ідэалаў 25 Сакавіка, дасць вопыт, сілы і беларускі імпульс дзеля адраджэння нашай славы і свабоды».

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Ці вернецца Юрый Губарэвіч у Беларусь?

*Як стала вядома «Народнай Волі», старшыня руху «За Свабоду»* ***Юрый Губарэвіч*** *цяпер знаходзіцца не ў Беларусі. Некаторыя палітыкі мяркуюць, што Юрыя маглі папярэдзіць пра магчымае затрыманне напярэдадні 25 сакавіка. «Народная Воля» пацікавілася, ці збіраецца палітык у бліжэйшы час вярнуцца на радзіму.*

*«Я рэгулярна выязджаю па справах за мяжу,* – адказаў Юрый Губарэвіч. – *Яшчэ не было ніводнага разу, каб я не вярнуўся».*

Ці будзе Юрый Губарэвіч у Мінску 25 сакавіка?

*«Калі будзе станоўчае рашэнне па заяўцы, то мушу быць як арганізатар»,* – коратка адказвае палітык.

Пазаўчора на АНТ чарговую порцыю бруду вылілі на заяўнікаў акцыі – маўляў, пайшлі ў КДБ здаваць усе яўкі і паролі.

*«Пра паходы ў КДБ мне нічога не вядома»,* – сказаў Губарэвіч «Народнай Волі».

**Марына КОКТЫШ.**

МЕРКАВАННЕ

## Павел ЛАТУШКА: «Гэта наш Дзень Волі!»

*Былы чыноўнік падзяліўся сваім поглядам на святкаванне 25 Сакавіка.*

– 25 Сакавіка – гэта гістарычная дата, вельмі важная для гісторыі нашай дзяржавы, дзень стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, – *гаворыць Латушка.* – Разумеючы і ўсведамляючы гэта, беларусы маюць права адзначыць гэтую важную гістарычную падзею.

У грамадстве ёсць пэўны запыт на дзеянне – гэта паказваюць усе нашы сустрэчы і размовы з актывістамі ў нашай краіне.

Мы дадзенай акцыяй адкрываем вясну, фактычна пратэстную вясну нашай краіны, гэта адкрыццё нашых дзеянняў на бліжэйшыя некалькі месяцаў.

Мы кажам пра важнасць бяспекі, але гэтая бяспека – умоўная, таму мы прапануем формы, калі людзі змогуць выходзіць на вуліцы гарадоў нашай краіны (а можа, і вёсак, як гэта было ў мінулым годзе). Выходзіць не на праезную частку, а выходзіць гуляць, каб паказаць, што нас шмат, бачыць адзін аднаго, паціскаць адзін аднаму руку. Можа быць, не заўсёды дастаючы сімволіку, хоць гэта права кожнага грамадзяніна. Але трэба разумець, што, дастаючы сімволіку, можна стаць мэтай, аб'ектам дзеянняў сілавых структур.

Я не хацеў бы тут пісаць сцэнарый, што трэба рабіць, але, лічу, важна выйсці ў гэты дзень на вуліцы, важна наша прысутнасць у гэты вечар і ў гэты дзень на вуліцах нашых гарадоў.

Мы ўсведамляем усе рызыкі, але кожны чалавек сам прымае рашэнне. Кожны – лідар, мы ўсе разам – народ.

Мы разумеем, што пададзена заяўка на правядзенне афіцыйнага мерапрыемства. І, хутчэй за ўсё, на яе будзе дадзены адмоўны адказ. Але гэта сённяшні алгарытм дыялогу ўлады з народам: не дазваляць ніякія масавыя мерапрыемствы, а потым караць за ўдзел у гэтых масавых мерапрыемствах. Гэта такая выразная двудушная пазіцыя. Але разам з тым гэта вельмі важна сёння – матываваць адзін аднаго рознымі інструментамі, выходзячы на вуліцы, паказваючы, што мы – сіла, што нас шмат, дэманстраваць уладзе, што мы не згодны з ёй.

Гэта акцыя, якую мы прапануем, складаецца з двух этапаў: першы – гэта ўпрыгожванне нашых гарадоў да 25 сакавіка, усе формы крэатыву магчымыя, і мы ведаем, наколькі крэатыўныя беларусы, і тут усё ў нашых руках. І другі этап – сам выхад на вуліцу. Калі ўлада пойдзе на тое, што проста будзе мінакоў на вуліцы затрымліваць, – так, такое было ўжо, але гэта яшчэ раз пакажа абсурднасць гэтай улады, якая не разумее, што адбываецца ў нашай краіне.

Разумею, што нехта будзе баяцца. Але сказаць сёння «Застаньцеся дома» – я не маю права. Я ўсведамляю, што калі мы не будзем выходзіць на вуліцу, то мы фактычна дэматывуемся і застанёмся ў нашых кватэрах. І будзе гэта, можа, нават паўтор савецкага перыяду, калі ўсе сядзелі на кухнях, размаўлялі, а ніхто не быў гатовы да нейкіх актыўных дзеянняў.

Нам важна выйсці паказаць, што мы гатовы да дзеянняў. Пачынаецца наша беларуская вясна, гэта наш Дзень Волі, наш Дзень Свабоды, наша гістарычнае свята, і мы будзем змагацца за свае правы і правы нашых людзей, якія знаходзяцца турмах.

ДУХОЎНАЯ ПОВЯЗЬ

## У Вязынцы гукалі вясну

*На радзіме Янкі Купалы, у вёсцы Вязынка, у нядзелю прайшло свята «Гуканне вясны», арганізаванае Студэнцкім этнаграфічным таварыствам і Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы.*

Былі гульні для моладзі і дзяцей, традыцыйная інструментальная музыка, вясёлыя танцы і кірмаш рамёстваў. Усе ўдзельнікі разам вадзілі карагоды, бо, паводле старажытных уяўленняў, топчучы зямлю, мы яе грэем і абуджаем.

Сёлета ў свяце выступалі гурты «Горынь», «Гуда», «Мережа», «Дайнава», «Варган», дзіцячы калектыў «Явар», этнаграфічны клуб «Кола», калектыў традыцыйнага танца «Табарак», клуб традыцыйнага танца «СІТА» і самыя розныя музыкі і танцоры з усёй краіны, ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны», а таксама рамеснікі-чараўнікі.

**Фота Яны ТРУСІЛЫ** *(«Новы Час».)*





РЭПРЭСІІ

## Ігару Барысаву далі 15 сутак

Затрыманне **Ігара Барысава** выклікала вялікі рэзананс. Старшыня Партыі БНФ **Рыгор Кастусёў** выступіў з заявай, у якой запатрабаваў тэрмінова вызваліць лідара БСДП.

Старшыня партыі «Зялёныя» **Дзмітрый Кучук**, які сябруе з Барысавым, таксама патрабуе *«неадкладна вызваліць Ігара і спыніць пераслед палітычных апанентаў».*

На навіну пра затрыманне Барысава імгненна адрэагавалі не толькі беларускія, але і замежныя палітыкі.

*«Мы глыбока занепакоены паведамленнямі пра арышт старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада)...*

*Партыя еўрапейскіх сацыялістаў... асуджае гэтыя палітычныя арышты і заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць Ігара Барысава і іншых палітвязняў...»* – гаворыцца з заяве кіраўніцтва Партыі еўрапейскіх сацыялістаў.

Жонка Ігара Барысава распавяла «Народнай Волі» пра тое, як затрымлівалі мужа: *«Уявіце карціну: ты едзеш за рулём, і тут нейкі кіроўца наперарэз табе пад колы кідаецца!»*

Алена Барысава знайшла мужа у адным з РАУСаў. Ні яе, ні адваката да Ігара не пусцілі. Аднак жанчына ўсё ж змагла перадаць мужу таблеткі: *«У яго трэці дзень мігрэнь, і мне было важна перадаць яму лекі ад галаўнога болю. Што адчувае жанчына, калі на яе вачах невядомыя ў масках літаральна выкрадаюць мужа? Напэўна, у такія моманты няма нічога немагчымага. Адвакат спрабавала паразмаўляць з дзяжурным, ёй адказалі, што яго зараз будуць вывозіць. Я перахапіла гэты бус. Ігар усміхаўся, нягледзячы на тое, што быў пад канвоем».*

Суд адбываўся праз скайп. Міліцыянты сведчылі: пры затрыманні Ігар чапляўся рукамі за капот аўтамабіля і не хацеў ісці.

Сведкай выступіла жонка. Яе паказанні супалі з паказаннямі Ігара: супраціўлення людзям у масках ён не аказваў. Тым не менш прысуд – 15 сутак арышту.

**Галіна РУТ.**

СУД

## Виктор Бабарико не признал свою вину

*Об этом экс-банкир и бывший претендент на пост президента заявил вчера в суде.*

Вчера Верховный суд после месячного перерыва возобновился процесс по делу топ-менеджеров «Белгазпромбанка». Перед заседанием адвокат **Дмитрий Лаевский** отметил, что настроение у подзащитного отличное, он рад видеть людей, которые смогли попасть в зал.

*«Любое движение – даже движение по ходу уголовного процесса – это все-таки лучше, чем состояние неопределенности»,* – подчеркнул Лаевский.

Журналистам «Народной Воли» попасть на процесс не удалось – руководство Верховного суда не дало нам аккредитации на процесс.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Мария Колесникова останется в СИЗО

Вчера Минский городской суд отказал защите **Марии Колесниковой** в удовлетворении жалобы на решение о продлении срока содержания под стражей.

Напомним: срок содержания в СИЗО Марии продлили до 8 мая.

**Галина РУТ.**

РУБАМ!

# Спадар Піневіч, не хавайце ад людзей ПРАЎДУ!

Не пакрывім душой, калі скажам: раней, калі каранавірусная эпідэмія толькі распаўзалася па ўсіх рэгіёнах Беларусі, прэтэнзіі ў людзей былі перш-наперш да тагачаснага міністра аховы здароўя У.Караніка. І невыпадкова. Многія трывожныя факты ім замоўчваліся, ён, як і Лукашэнка, казаў адно: не хвалюйцеся, усё у нас нармальна.

Мінае месяц за месяцам, а інфекцыйная зараза не знікае. Наадварот, яна ахапіла ўвесь свет,ператварыўшыся ў пандэмію,. Здавалася б, нічога не схаваеш, народу трэба гаварыць толькі **ПРАЎДУ**. А ў нас што з гэтым? Караніку Лукашэнка аддаў Гродзенскую вобласць, а на яго месца прызначыў Дзмітрыя Піневіча. І зноў усе бачаць: новы міністр таксама не раскрывае ўсіх карт, калі размова заходзіць пра сітуацыю з каранавірусам у краіне. Вядома ж, гэта выклікае абурэнне людзей, іх крытычныя стрэлы ляцяць ва ўсе бакі. Рэдакцыя «Народнай Волі» атрымлівае шмат нараканняў з нагоды той інфармацыі, якую афіцыйна дае Міністэрства аховы здароўя і якая, паводле меркавання грамадскасці, не адпавядае сапраўднасці.



Народная Воля

Выдавецкае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства
РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
220030, г. Мінск, вул. Энгельса, д. 34-А
р/р BY08PJCB30120065351000000933,
код PJCBBY2X
ЦБУ 113 "Приорбанк" ААТ, г.Мінск
УНП 100961759
16 лютага 2021 г. № 01-08/15
на №______ ад "__"________2021 г.

Міністру аховы здароўя
Рэспублікі Беларусь
**сп. Піневічу Дзмітрыю Леанідавічу**
вул.Мяснікова, 39 Мінск, 220048

**Паважаны Дзмітрый Леанідавіч!**

Рэдакцыя газеты "Народная Воля" атрымлівае шмат нараканняў з нагоды той інфармацыі, якая афіцыйна паступае ад Мінаховы здароўя і якую мы даводзім да шырокай грамадскасці.

У сувязі з гэтым дасылаем Вам на разгляд ліст Рэгіны Кубай, якая прапануе іншы падыход інфармавання насельніцтва наконт каранавіруснай эпідэміі.

Аб выніках просім паведаміць рэдакцыі.

**Іосіф Сярэдзіч,**
**галоўны рэдактар**
**газеты "Народная Воля"**

Дадатак. Ксеракопія ліста Р.Кубай ("Народная Воля" за 29 снежня 2020 г.).

Так, 29 снежня 2020 года ў нашай газеце быў надрукаваны ліст Рэгіны Кубай пад назвай **«Дайце статыстыку па рэгіёнах»**. (Каб не пераказваць змест, публікуем яго сёння паўторна.) Паколькі аўтаркай востра пастаўлена пытанне аб тым, што Міністэрства аховы здароўя недастаткова аргументавана падыходзіць да інфармавання насельніцтва ў сувязі з цяжкай эпідэмічнай сітуацыяй, то рэдакцыя вырашыла накіраваць пісьмо Рэгіны Кубай на разгляд непасрэдна Дз.Піневічу. А паколькі так атрымалася, што з канца лістапада газета вымушана выдавацца толькі ў электронным варыянце, дык той артыкул «Дайце статыстыку па рэгіёнах» быў дадаткова раздрукаваны на прынтары і прыкладзены да ліста на адрас міністра.

Не думаем, што рэдакцыйны зварот не трапіў у рукі Дзмітрыю Леанідавічу. Мяркуем, міністр добра знаёмы і з існуючым заканадаўствам – на публікацыі сродкаў масавай інфармацыі трэба рэагаваць у належныя тэрміны. Але вось час, адведзены для гэтага, мінуў, а ад спадара Піневіча – ні слова, ні паўслова. Ствараецца ўражанне, што ён, як і раней Каранік, усе свае здольнасці скіраваў на супакаенне грамадскасці, не даючы дастатковай інфармацыі. А калі яна няпоўная, то і не можа быць праўдзівай. Пра што, дарэчы, сведчаць і адкрытыя выказванні вядомага інфекцыяніста Мікіты Салаўя, якія мы вырашылі ўключыць у гэтую падборку.

Зыходзячы з надзвычай вострай праблемы і таго права, якое рэдакцыі нададзена заканадаўствам, яшчэ раз звяртаемся да міністра аховы здароўя Дз.Піневіча. Калі ласка, разгледзьце ліст Р.Кубай, а таксама звярніце ўвагу на меркаванні М.Салаўя. Не той выпадак, калі можна адмоўчвацца. Мільёны людзей, падаткаплацельшчыкаў, хочуць ведаць ПРАЎДУ (і толькі!), калі пад пагрозай апынаюцца іх жыцці.

**Рэдакцыя газеты «Народная Воля».**

ВЕРЫЦЬ – НЕ ВЕРЫЦЬ?

# Дайце статыстыку па рэгіёнах

Памятаю расказ на старонках "Народнай Волі" адной беларускай дзяўчыны, якая жыве за мяжой і працуе ў шпіталі. Аказваецца, у той еўрапейскай краіне зусім не так, як у нас, падаюць статыстыку аб захворванні людзей на каранавірус. Кожны дзень па тэлебачанні транслююцца звесткі па кожным рэгіёне, кожным горадзе. Па-першае, ніхто не хавае рэальных лічбаў, а па-другое, такая падрабязная інфармацыя дае ўяўленне, дзе небяспека заражэння большая, а дзе меншая. Чалавек выбірае, куды можна ехаць для вырашэння тых ці іншых праблем, а куды лепш не трапляць, паколькі там бушуе пандэмія.

Я лічу, вопыт замежных калег павінны пераняць беларускія медыкі. Інфармацыя нашага Міністэрства аховы здароўя настолькі куцая, што нельга зразумець, якая сітуацыя з каранавірусам, скажам, у Брэсце ці Віцебску, Гомелі альбо Магілёве, не кажучы ўжо пра раённыя цэнтры, вёскі. Ёсць усе падставы думаць, што наогул падаецца фальшывая статыстыка. Глядзіце, вось ужо каторы тыдзень паведамляецца, што ад эпідэміі ў нас памірае ў суткі 8–9 чалавек. Ну не можа быць такой стабільнасці на працягу доўгага перыяду! Калі б інфармацыя прадстаўлялася па рэгіёнах, вялікіх і малых гарадах, то, верагодна, карціна была б зусім іншая.



**Спадар Піневіч, не хавайце ад людзей ПРАЎДУ!**

Можна сцвярджаць, ашуканства ідзе на дзяржаўным узроўні. Такім чынам праблема, а дакладней – небяспечная хвароба, заганяецца ўсё глыбей і глыбей. І не трэба Лукашэнку ездзіць па бальніцах, лепш кажыце людзям праўду, а не займайцеся хлуснёй.

**Рэгіна КУБАЙ.**

З НАГОДЫ

# «...Лічба смяротнасці па краіне мусіць быць як мінімум у 5–6 разоў вышэйшая за афіцыйныя лічбы»

*Інфекцыяніст Мікіта Салавей – пра статыстыку захворвання*



**– У першую хвалю афіцыйна ў нас было не больш за 1000 хворых у суткі, цяпер, у другую, не больш за 2000. І да 10 памерлых у суткі. Вы верыце ў гэтыя лічбы?**

– Не, канечне. І не хаваю, гаварылася не раз, што гэтыя лічбы штучныя.

Мы ж таксама лечым пацыентаў, бываем у розных стацыянарах. І мы разумеем, што нават у Мінску гэтая лічба большая, асабліва на піку захворвальнасці.

**– Якія лічбы тады, на вашу думку, больш ці менш адпавядаюць рэчаіснасці? Проста на ваша суб'ектыўнае меркаванне.**

– На мой погляд, за дзень лічба смяротнасці па краіне мусіць быць як мінімум у 5–6 разоў вышэйшая за афіцыйныя лічбы. Не выключаю, што ў рэгіёнах смяротнасць можа быць вышэйшая, чым у Мінску, бо магчымасці дапамагаць пацыентам розныя.

Па захворвальнасці складаней сказаць, бо там шмат нюансаў, звязаных з рэгістрацыяй. Можа, вынік аналізу атрымаюць сёння, а апрацуюць у Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі толькі праз некалькі дзён, і тады гэты выпадак трапіць у афіцыйную статыстыку пазней.

**– А вы гэтыя лічбы спрабавалі неяк давесці да чыноўнікаў Міністэрства аховы здароўя?**

– Гэта праца Міністэрства аховы здароўя – збіраць актуальную статыстыку па захворвальнасці і смяротнасці. І цалкам магчыма, што яны яе і маюць. Тое, як яны яе рэгіструюць і агучваюць, – іх праблемы. Нашы праблемы як клініцыстаў – аказваць адэкватную медыцынскую дапамогу пацыентам.

Але я ведаю, што ў нашай клініцы мы падаём як ёсць: калі чалавек памёр ад каранавіруснай інфекцыі, то мы і рэгіструем гэты выпадак як каранавірусную інфекцыю. Як яно ўлічваецца далей – праблема адміністрацыйнага ўзроўню.

**– На вас няма ціску, як «правільна» запісваць смерць чалавека?**

– Не, ніякага ціску. І мяркую, што ў большасці ўстаноў аховы здароўя такога ціску на дактароў няма. Праблема не ў дактарах, дактары часцей за ўсё ставяць дыягназы як ёсць. Але мы не ведаем, што адбываецца далей, як шыфруюцца пасмяротныя дыягназы аддзеламі статыстыкі, як падае гэтыя дадзеныя адміністрацыя ўстановы і пасля вышэйстаячыя інстанцыі.

*(З інтэрв'ю «NN».)*

СЁННЯ!

# Які вердыкт вынесе суд?

*23 сакавіка за «збіццё» Азаронка будуць судзіць перакладчыцу Вольгу Калацкую.*



Сёння ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска пачынаецца працэс над перакладчыцай Вольгай Калацкай. Яе вінавацяць у злосным хуліганстве (арт.339 Крымінальнага кодэкса) – нібыта падчас адной з пратэстных акцый яна некалькі разоў ударыла адыёзнага тэлежурналіста Рыгора Азаронка.

Вольгу Калацкую затрымалі 15 студзеня. У свой час яна пераклала на беларускую мову дзясяткі фільмаў, серыялаў і кніг, у тым ліку творы Вірджыніі Вулф, Тэнесі Уільямса, Уільяма Голдынга, Пола Остэра, Тоні Парсанза, Артура Голдэна, кінастужкі «Гладыятар», «Шрэк», «Сямейку Смітаў» ды іншыя.

З патрабаваннем неадкладна вызваліць Вольгу выступілі Амерыканскі ПЭН (PEN America) і вядомая канадская пісьменніца Маргарэт Этвуд. Але, як бачым, на гэта ў Беларусі не звярнулі ўвагу.

Вольга Калацкая мае 89-гадовую маці, якой патрабуецца догляд. Цяпер ёй дапамагаюць сябры і вучні Вольгі.

ЭКОНОМИКА

# Проваливаемся...

*Крупные и средние предприятия страны показывают печальные результаты.*

Один из главных показателей эффективности работы бизнеса без увязки с долговой нагрузкой и курсовыми разницами – это рентабельность продаж. Рентабельность продаж отражает соотношение прибыли от реализации продукции и выручки, пишет сайт *banki24.by.*

Как правило, чем выше рентабельность, тем выше эффективность деятельности предприятия. Верно и обратное: ниже рентабельность – ниже эффект от продажи продукции.

В бюллетенях госорганов компании с рентабельностью ниже нуля (убыточные) и с рентабельностью 0–5% обычно относят к низкоэффективным. Эти предприятия – первые кандидаты на вылет из отрасли в случае затяжного кризиса.

Финансовая статистика выходит с бо́льшим лагом, чем производственные показатели. Сегодня самыми актуальными данными является информация за январь 2021 года.

В январе 2021-го около 61,3% крупных и средних предприятий реального сектора были либо убыточны, либо имели рентабельность 0–5%. В этой категории компаний нерентабельными являлись 29,9%, а низкоприбыльными – 31,3%. По Минску доля низкоэффективных предприятий достигла 56%, причем удельный вес убыточных составил 32%. Впрочем, на фоне результатов компаний в областях даже это неплохой результат.

Среди областей в худшем положении находилась Могилевская. В этом регионе доля убыточных флагманов составила 32%, а удельный вес низкоэффективных – аж 71,2%. Интересно, что параллельно в Могилевской области наблюдаются самые низкие зарплаты и самая высокая трудовая нагрузка в стране.

Лучшей в числе областей стала Гродненская, где нашлось 25,8% убыточных флагманов и 55,7% низкоэффективных. В Брестской области эти показатели составили 28,6% и 58%, в Витебской – 31,4% и 66,2%, в Гомельской – 25,3% и 65,4%, в Минской – 32,4% и 61,3%.

В сельском хозяйстве доля убыточных валообразующих предприятий достигла 24,4%, уязвимых – 59,3%, в промышленности – 28,7% и 56,3%, в строительстве – 35,1% и 66,3%, в оптовой торговле – 33,3% и 74,6%, в розничной торговле – 43,3% и 88%, на транспорте – 36,9% и 72,2%.

Традиционно для последних месяцев в труднейшем положении находятся гостиницы и рестораны. Доля убыточных компаний среди флагманов HoReCa составила 50%, а уязвимых – 88,6%. Эта отрасль насыщена частным бизнесом и получила крайне мало поддержки от государства во время острой фазы кризиса 2020 года.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

## Сергей АНТОНЧИК, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 12-го созыва:



– Манифестации прекратились, но они уже всё сказали – политические требования общества сформированы. Я считаю, что **в прекращении манифестаций нет поражения не стоит посыпать по этому поводу голову пеплом.**

Нормальный человек, когда приходит в зоопарк и видит, что на клетке написано «за решеткой разъяренный медведь», не будет туда совать руку, потому что знает, что ее там отгрызут.

Когда идут жестокие карательные акции, то не надо совать ладонь в клетку. Те, кто призывает к этому, или неумные, или не знаю кто.

Манифестации как форма протеста закончились, но сам протест – нет.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 САКАВІКА 2021 г.

З ЗАЛЫ СУДА

# Адлучэнне ад універсітэта

## Гісторыя звальнення «пратэстнага» выкладчыка

### Асоба ў горадзе

У Беларускім дзяржаўным універсітэце транспарту на факультэце прамысловага і грамадзянскага будаўніцтва **Яўген Малікаў** выкладаў гісторыю архітэктуры 16 гадоў. Карэнны гамяльчанін, паводле першай адукацыі гісторык – скончыў Гомельскі ўніверсітэт імя Францішка Скарыны. Потым вучыўся ў аспірантуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы па спецыяльнасці «Выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і архітэктура», абараніў на такую ж тэму кандыдацкую дысертацыю, выдаў манаграфію.

Яўген Малікаў – прыкметная асоба ў горадзе. Ён быў у шэрагах абаронцаў унікальнай драўлянай забудовы Гомеля, ашчаднага стаўлення да палацава-паркавай тэрыторыі, выступаў разам з іншымі гараджанамі за ўшанаванне памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій у Шчакатоўскім і Бутулінскім лясах паабапал Чарнігаўскай шашы. Ва ўніверсітэце выкладчык кіраваў студэнцкім навуковым таварыствам гісторыі архітэктуры і краязнаўства імя Станіслава Шабунеўскага, выбітнага гомельскага архітэктара, які загінуў у гады сталінскіх рэпрэсій.

19 лістапада мінулага года Малікава звольнілі, як напісана ў загадзе рэктара ўніверсітэта Юрыя Кулажанкі, *«у сувязі са здзяйсненнем амаральнага ўчынку, несумяшчальнага з працягам дадзенай працы, п.3 арт.47 Працоўнага кодэкса»*.



Яўген Малікаў.

### Трыумвірат у сярэдзіне семестра

Дык які «амаральны ўчынак» здзейсніў дацэнт кафедры архітэктуры і будаўніцтва Яўген Малікаў, што яго неабходна было звальняць з універсітэта ў сярэдзіне семестра?

Сам Яўген спачатку розуму не мог дабраць. 11 верасня яго затрымала міліцыя паблізу дома, калі ён вяртаўся з тэхнічнага ўніверсітэта імя Сухога, дзе падтрымаў калег, якія ладзілі пікет супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў і гвалту з боку сілавікоў.

Трое сутак выкладчык сядзеў, што называецца, без суда і следства ў ізалятары, а 14 верасня суд пакараў яго пяцісутачным арыштам за ўдзел у акцыі пратэсту 6 верасня. Паказальна, што на чарговым пратэстным маршы, што праходзіў у Гомелі, былі плакаты ў падтрымку мастацтвазнаўца і гісторыка Яўгена Малікава. Апроч таго, у дзень суда некалькі дзясяткаў студэнтаў БелДУТ правялі пікет салідарнасці са сваім выкладчыкам, які адбываў суткі ў ізалятары.

Удзел у пратэстнай акцыі і стаўся тым *«амаральным учынкам»*, пакладзеным у аснову загаду на звальненне.

17 верасня, калі Малікаў пасля ізалятара выйшаў на працу, яго выклікаў да сябе рэктар Кулажанка. У прысутнасці двух прарэктараў, Юрыя Самадума і Галіны Чаянковай, адбылася працяглая, але досыць карэктная размова пра затрыманне і адміністрацыйны арышт. Калі ўсе дзіды і стрэлы былі паламаны, рэктар запытаўся ў выкладчыка, як ён мае намер надалей будаваць свае адносіны з універсітэтам.

*«Калі вы лічыце, што адміністрацыйны арышт – гэта прагул, звальняйце. Калі не, я гатоў ісці на лекцыю»*, – адказваў Малікаў.

Пярэчанняў не было, і Яўген адправіўся на кафедру выконваць абавязкі дацэнта. Яму здавалася, што на гэтым прэтэнзіі рэктарата з прычыны яго ўдзелу ў акцыях пратэсту скончыліся.

### «Выстаўлю адзін вус»

Зацішша цягнулася амаль два месяцы. Яўген працягваў выкладаць студэнтам гісторыю архітэктуры, куратарстваваць у групе трэцякурснікаў, будучых архітэктараў. І тут на выкладчыка наваліўся кавід, хатняя самаізаляцыя, а дома, як на бяду, заставаўся нясконччаны майстрамі рамонт ды іншыя побытавыя клопаты.

Падчас хваробы і каранціну ў 42-гадовага выкладчыка адраслі барада і вусы. Бараду Яўген пагаліў, а вусы пакінуў і нават зрабіў сэлфі. Свой новы імідж выкладчык дапоўніў каментарыем у Facebook: *«Я вось думаю: калі нашы мясцовыя аграфеадалы баяцца не законаў, а чувака з вусамі, можна мне і пакінуць гэтыя вусы – буду апанентаў пужаць імі, як таракан. Прыспушчу маску, выстаўлю адзін вус вонкі і грозна выдам: «Шо вы сказалі???»*.

Разважанні Малікава закранулі «рабаўладальнікаў», «цяжкую артылерыю» 1930-х гадоў ды некаторыя іншыя гістарычныя моманты. Допіс у Facebook праз нейкі тыдзень заўважылі ва ўніверсітэце і ўспрынялі як спробу дыскрэдытацыі. Прынамсі, загадчык кафедры «Архітэктура і будаўніцтва» прафесар **Ігар Малкоў** напісаў дакладную, у якой абвінаваціў Малікава ў *«хамстве, грубасці і паклёпе ў дачыненні службовых асоб універсітэта»*.

Дэкан факультэта прамысловага і грамадзянскага будаўніцтва **Анатоль Ташкінаў** у сваёй дакладной на падставе суб'ектыўных меркаванняў успрыняў пост выкладчыка ў сацыяльнай сетцы як *«паклёпніцкі матэрыял, які ў грубай і абразлівай форме ганьбіць кіраўніцтва кафедры, факультэта і ўніверсітэта, называючы іх рабаўладальнікамі і аграфеадаламі. Загадчыка кафедры прафесара, доктара архітэктуры Малкова І.Г. ён яшчэ называе «цяжкай артылерыяй», праўда, яшчэ даваеннай, 1930-х гадоў выпуску, закліканага (паводле допісу) для «канчатковага вырашэння праблемы з Малікавым»*.

Ляцелі на адрас выкладчыка і «снарады» значна большага калібру: *«...у паўсядзённай педагагічнай рабоце адсутнасць палажэнняў дзяржаўнай ідэалагічнай дактрыны, у аснове якой мір і спакой, і прамая падтрымка студэнтаў, што сеюць у розумах іншых збянтэжанасць і беспарадкі»*.

11 лістапада рэктар БелДУТ вынес Малікаву вымову, як сказана ў загадзе №292л, *«за парушэнне п.29 Правілаў унутранага працоўнага распарадку, што выразілася ў незахаванні маральных і этычных норм у частцы моўнай дысцыпліны пры размяшчэнні 30.10.20 інфармацыйнага паведамлення ў сацыяльнай сетцы»*.

Падобна, што гэта наогул першая ў Беларусі вымова, зробленая выкладчыку за пост на яго старонцы ў сацыяльнай сетцы.

### Грозны ліст

Выпадкова ці не, але ўжо на наступны дзень ва ўніверсітэце быў зарэгістраваны ліст з Чыгуначнага РАУС за подпісам намесніка начальніка **Віктара Сцепаненкі** – ён інфармуе, што выкладчык Малікаў браў удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве, чым парушыў артыкул 23.34 КаАП. У катэгарычнай форме намеснік начальніка **патрабаваў** разгледзець факт здзяйснення выкладчыкам правапарушэння на сходзе калектыву, патлумачыць яму патрабаванне заканадаўства, якое вызначае парадак правядзення масавых мерапрыемстваў, а таксама растлумачыць адказнасць паводле артыкулаў 17.1, 23.4, 23.34 КаАП. Трэці пункт у лісце: цягам месяца пісьмова праінфармаваць аддзел міліцыі наконт прынятых мер.

У вышэйшай навучальнай установе адказырнулі. Ужо 17 лістапада рэктар Юрый Кулажанка падпісаў загад №701к – звольніць з універсітэта Яўгена Малікава з 19 лістапада *«ў сувязі са здзяйсненнем амаральнага ўчынку, несумяшчальнанага з працягам дадзенай працы, п.3 арт.47 Працоўнага кодэкса»*. Выкладчыку не далі нават дапрацаваць апошнія два дні, асцерагаючыся яго мажлівага негатыўнага ўплыву на выхаваўчы працэс са студэнтамі.

### З «партызанаў» – у суд

Праз дзесяць дзён пасля звальнення Малікава прызвалі на вайсковыя зборы. Ён нават пажартаваў: *«Арышт у ізалятары замянілі на 25 сутак збораў»*. Але дзіва дзіўнае: вайсковыя зборы ў 42-гадовага кандыдата мастацтвазнаўства цягнуліся ўсяго адзін дзень. У вайсковай часці асцерагаліся «партызан», якія бралі ўдзел у акцыях пратэсту.

Вярнуўшыся дадому, Яўген падрыхтаваў іск у суд, у якім абскардзіў сваё звальненне з працы паводле «амаралкі». Заадно выкладчык аспрэчваў і рашэнне камісіі па працоўных спрэчках – яна адмовілася на яго заяву скасаваць загад рэктара №292л на вымову «за парушэнне п.29 Правілаў унутранага працоўнага распарадку». Прасцей кажучы, той самы загад на вымову за допіс у Facebook. Апроч таго, звольнены выкладчык патрабаваў аплату за вымушаны прагул і кампенсацыю маральнай шкоды ў памеры адной тысячы рублёў.

*«Я асабіста перакананы,* – зазначаў адразу пасля падачы заявы ў суд выкладчык Малікаў, – *што ў дадзенай судовай спрэчцы законнасць цалкам на маім баку. Але хто ж яго ведае, як яно там, у судзе, пойдзе, якія дадатковыя «контраргументы» выставіць супрацьлеглы бок»*. І дадаваў пры гэтым, што ў Беларусі *«часам і нямыя лозунгі крычаць, і бязрукія ў далоні пляскаюць»*.

### Мараль і права

Іск звольненага выкладчыка разглядаў суд Чыгуначнага раёна Гомеля. Адказчыкі па даверанасці – начальніца арганізацыйнага аддзела і юрыдычнай работы БелДУТ **Алена Кавалёва** і прарэктар па вучэбнай працы **Мікалай Казакоў** – прэтэнзіі выкладчыка да кіраўніцтва ўніверсітэта не прызналі.

Прарэктар Казакоў, адказны ва ўніверсітэце за адукацыйны працэс, у размове з журналістам «Народнай Волі» адмаўляў звальненне выкладчыка з ідэалагічных прычын ды дзеля перастрахоўкі. Раіў слухаць, што будзе гаварыцца ў судзе.

Адбыліся чатыры пасяджэнні суда. У якасці сведак былі дапытаны кіраўнікі аддзела кадраў, кафедры архітэктуры і будаўніцтва, дэканата прамысловага і грамадзянскага будаўніцтва, члены прафкама ды некаторых іншых структур вышэйшай навучальнай установы.

У прыватнасці, Алена Кавалёва тлумачыла ў судзе, што Малікаў дапусціў **парушэнне працоўнай дысцыпліцы** *«шляхам размяшчэння ў сацыяльнай сетцы інфармацыйнага паведамлення, якое ўтрымлівае выказванні, што выражаюць непавагу да ўніверсітэта ў цэлым, а таксама палітычныя перакананні, погляды адносна Беларусі з выкарыстаннем двухсэнсоўных, неадназначных выразаў»*. Усё гэта даступна шырокай публіцы, у тым ліку і студэнтам. Выкладчыкі ж, маўляў, мусяць падаваць прыклад не толькі ў сценах універсітэта, яны наогул *«не павіненны дапускаць дзеянняў на публічнае абмеркаванне ўніверсітэта»*. Трэба дбаць пра імідж навучальнай установы, аўтарытэт педработніка, заяўлялі прадстаўнікі ўніверсітэта на судзе. Таго патрабуе і Кодэкс аб адукацыі.

Выкладчык Малікаў не пярэчыў згаданым пастулатам, але здзіўляўся: а пры чым тут зроблены ў непрацоўны час пост у Facebook, дзе няма ні імёнаў, ні прозвішчаў, ні назвы ўстановы? Няма нават слова «ўніверсітэт».

Дысцыплінарная адказнасць, паводле працоўнага заканадаўства, наступае за **«супрацьпраўнае, вінаватае невыкананне альбо неналежнае выкананне работнікам сваіх працоўных абавязкаў»**. Таму Малікаў і здзіўляўся: якія такія працоўныя абавязкі ён выконваў, седзячы ўвечары 30 кастрычніка ў сябе дома, калі пісаў пост? Допіс ў сацыяльнай сетцы ніяк не падпадае пад парушэнне працоўнай дысцыпліны.

Дык ён жа калег абразіў, назваў іх «рабаўладальнікамі», «аграфеадаламі»! – абураліся прадстаўнікі ўніверсітэта.

Непасрэдны кіраўнік звольненага выкладчыка загадчык кафедры, доктар архітэктуры **Ігар Малкоў**, выступаючы ў судзе, заявіў: *«Я фігурую ў допісе ў якасці «артылерыі 30-х гадоў». З гадамі вы* (Малікаў) *угадалі. Канечне, для мяне гэта абразліва. Тое, што выкладваецца ў інтэрнэце, – гэта лухта для людзей такога ўзроўню* (прафесар абазначыў рукой невысока ад падлогі)».

85-гадовы загадчык кафедры ўдзельнічаў у камісіі, якая вызначала, што ўчынкі выкладчыка Малікава амаральныя і яго трэба звольніць. Ісцец і запытаўся ў сведкі, якія ж дзеянні той лічыць амаральнымі.

– Яўген Раманавіч, мы колькі з табой гаварылі! – наўпрост звярнуўся загадчык да звольненага калегі. – Калектыў кафедры – 48 чалавек, ты заўсёды быў сам па сабе. Якая мараль? Хоць бы тое, што ты не праводзіў палітыку дзяржавы, якую патрабуюць ад кожнага выкладчыка.

– Што менавіта амаральнага ў маім учынку? – прасіў удакладніць Малікаў.

– Я пра гэту класіфікацыю не скажу, не ведаю, – адказаў прафесар Малкоў.

Тут дарэчы заўважыць, што выкліканы ў суд эксперт, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францішка Скарыны **Святлана Вяргеенка**, абвергла наяўнасць парушэння маральных і этычных нормаў у інтэрнэтным допісе Малікава з пункту гледжання моўнай дысцыпліны – у ім няма *«лексічных адзінак, якія абражалі б гонар альбо годнасць хоць кагосьці»*. Тэкст нейтральны, словы літаратурныя. Няма ў паведамленні выкладчыка і *«слоў, якія нейкім чынам дыскрэдытавалі б Беларусь»*, пра што пыталіся ў судзе адказчыкі з БелДУТ. Спецыяліст убачыла ў допісе меркаванне чалавека, так ці інакш звязанага з гісторыяй. А за меркаванне заканадаўства не прадугледжвае пакарання.



Мікалай Казакоў і Алена Кавалёва, адказчыкі ў судзе з БелДУТ. Фота аўтара.

### «Рабаўладальнікі» і верш на дзвярах аўто

– Правілы моўнай дысцыпліны прымяняюцца (выкладчыкі абавязаны іх захоўваць) не толькі ў працоўны час, не толькі на занятках. Ёсць яшчэ другая палова дня. А ці можа моўная дысцыпліна ўтрымліваць немаральныя формы? Узяць тэкст – прыгожы, каліграфічны, прыкладам, верш Якуба Коласа, напісаны на дзвярах чужой машыны, на сцяне ўніверсітэта. Ці можна казаць, што гэта невыкананне моўнай дысцыпліны? – задаваў пытанне спецыялісту-філолагу прарэктар БелДУТ Мікалай Казакоў.

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*

З НАГОДЫ



# Саспяванне беларускай нацыі непасрэдна звязана з бел-чырвона-белым сцягам

Пасля пачатку пратэстаў, звязаных з беспрэцэдэнтнымі фальсіфікацыямі падчас прэзідэнцкіх выбараў, праўладныя прапагандысты і сам А.Лукашэнка часта гавораць пра бел-чырвона-белы сцяг і звязваюць яго з перыядам нацысцкай акупацыі. Разбіраемся з экспертамі, чаму гэта няправільна.

- Сцяг не можа адказваць за тое, хто яго і калі выкарыстоўваў. Бел-чырвона-белы сцяг мала адрозніваецца ад сцягоў многіх еўрапейскіх краін, якія перажылі нямецкую акупацыю.
- Бел-чырвона-белы сцяг услаўлялі ў сваёй творчасці партызан Янка Брыль і франтавік Максім Танк.
- Пад чырвона-зялёным сцягам ніхто не «праліваў кроў» на франтах Другой сусветнай вайны. Яго ўхвалілі з падачы Сталіна ў 1951 годзе. Аўтар эскіза сцяга БССР маляваў партрэты Гітлера падчас акупацыі.
- За савецкім часам любыя згадкі і выявы бел-чырвона-белага сцяга былі забаронены.
- Першым у публічнай прасторы сцяг узняў студэнт Акадэміі мастацтваў Алесь Пушкін – у 1989 годзе падчас святкавання ўгодкаў БНР.
- Рэферэндум-1995 па вяртанні чырвона-зялёнага сцяга нельга лічыць легітымным.
- Цяпер сотні тысяч беларусаў падымаюць бел-чырвона-белы сцяг, кідаючы выклік дыктатарскаму рэжыму і ідучы на рызыку.
- Заканчэнне саспявання беларускай нацыі непарыўна звязана з бел-чырвона-белым сцягам.

## 7 фактаў пра бел-чырвона-белы сцяг



- Эскіз белага сцяга з чырвонай стужкай Дуж-Душэўскі намаляваў на пачатку 1917 года. За аснову ён узяў колеры «Пагоні».
- Яшчэ ўзімку 1917-га сцяг выкарыстоўвалі толькі беларускія студэнты ў Пецярбургу.
- У сакавіку ён стаў галоўным элементам падчас «Дня беларускага значка», калі бел-чырвона-белыя адзнакі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць на вуліцах Мінска.
- Сцягі, пашытыя паводле эскіза Клаўдыюша Дуж-Душэўскага, разаслалі ў мясцовыя арганізацыі.
- У жніўні на 1-й сесіі Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый было вызначана, што ўсе вайскоўцы-беларусы павінны насіць бел-чырвона-белую стужку як дадатковы знак адрознення.
- У снежні 1917 года ў Мінску пад бел-чырвона-белымі сцягамі пачаў працу Першы Усебеларускі з'езд.
- 1918 год – бел-чырвона-белы сцяг стаў афіцыйным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі.

Выява бел-чырвона-белага сцяга на шэрым кардоне знойдзена падчас рэканструкцыі Купалаўскага тэатра ў 2013 годзе. Адмыслоўцы не выключаюць, што такія карткі выкарыстоўвалі падчас галасавання дэлегаты Першага Усебеларускага з'езда ў снежні 1917-га.

*(svabod1.azureedge)*

РЭАКЦЫЯ

### Анжаліка КУРЧАК, афіцыйны прадстаўнік Генпракуратуры ў інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь 1»:

– З улікам раней праведзенай Генеральнай пракуратурай работы па ўдасканаленні заканадаўства аб супрацьдзеянні экстрэмізму зараз мы рыхтуем пакет дакументаў аб прызнанні экстрэмісцкім бел-чырвона-белага сцяга і іншай сімволікі.

### З петыцыі на партале Petitions.by:

***– Мы лічым, што забарона на выкарыстанне бел-чырвона-белай сімволікі не абгрунтавана нічым, акрамя палітычнага ціску на грамадзян, не згодных з дзеяннямі дзеючых улад.***

***…Мы дакладна ведаем, што забарона бел-чырвона-белай сімволікі – гэта не жаданне народа, а прыхамаць 100 чалавек.***

Максім ТАНК

***Глядзіце ў будучыню смела!***
***Настаў доўгачаканы час,***
***Пад сцягам бел-чырвона-белым***
***Чакае перамога нас.***

Выкарыстанне калабарантамі нацыянальных сімвалаў у часы Другой сусветнай вайны было звычайнай справай у Еўропе і не можа весці да іх дыскрэдытацыі. Мы бачым, як дзяржавы з падобным гістарычным досведам, як, напрыклад, Расія, Украіна, Францыя, Літва, Латвія, Харватыя, Нарвегія, Данія ды іншыя шануюць свае нацыянальныя сцягі.

У верасні 1991 года Вярхоўны Савет БССР зацвердзіў бела-чырвона-белы сцяг дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь. У 1994 годзе менавіта пад ім прыносіў прысягу новаабраны прэзідэнт Лукашэнка.

Сённяшняя афіцыёзная прапагандысцкая кампанія па дыскрэдытацыі і забароне нацыянальнага і дзяржаўнага сімвала Беларусі – бела-чырвона-белага сцяга – не мае ніякага гістарычнага абгрунтавання, вядзе да расколу грамадства і распальвання варажнечы паміж грамадзянамі Беларусі

Арганізатары і ўдзельнікі гэтай кампаніі павінны панесці адказнасць не толькі перад судом гісторыі, але і юрыдычную.

***(З заявы гісторыкаў у абарону беларускага нацыянальнага сцяга. На 22 сакавіка 2021 года пад лістом падпісаліся 1047 чалавек.)***

З ЗАЛЫ СУДА

# Адлучэнне ад універсітэта

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

– Гэта сфера юрыспрудэнцыі, паколькі нанесена шкода машыне, сцяне... А моўная дысцыпліна не можа разглядацца як парушэнне этыкі, яна – дысцыпліна, – тлумачыла Святлана Вяргеенка.

– Проба пяра *(Малікаву)* удалася – пэўна, трыста людзей пачыталі, а цяпер ужо, можа, і тысяча. Таму тэрмін «суб'ектыўна» я ўжо выкарыстоўваць не магу. Два паважаныя чалавекі допіс дацэнта Малікава лічаць абразлівым, – разважаў прарэктар.

– Гэта іх асабістае меркаванне... Кожны чалавек у сілу сваёй пісьменнасці можа інтэрпрэтаваць тэкст так, як яму намысліцца, – заўважыла Вяргеенка.

– «Рабаўладальнікі» – гэта гістарычны тэрмін, але ў яго ёсць пэўны негатыўны сэнс. Наймальнік, загадчык кафедры, непасрэдны кіраўнік, чытаючы гэты тэкст і ведаючы, што ў іх канфліктныя дачыненні, маглі ўспрыняць на сябе гэты тэкст? – пацікавілася ў сваю чаргу прадстаўніца пракуратуры, якая ўдзельнічала ў працэсе.

– Калі наймальнік лічыць сябе рабаўладальнікам, то мог, – быў адказ спецыяліста-філолага.

Дэкан факультэта ПГБ **Анатоль Ташкінаў**, якога суд таксама апытваў у якасці сведкі, перакананы, што допіс выкладчыка наконт «рабаўладальнікаў» і «аграфеадалаў» недарэчны і датычны кіраўніцтва і кафедры, і ўніверсітэта – сам ён на той час быў на бальнічным. А падставай для іранічнага паста сталася дакладная запіска загадчыка кафедры пра хібы ў выкладчыцкай дзейнасці Малікава – і стэнд ён не аформіў, і метадычны дапаможнік не выдаў, і публікацый па прадмеце ў яго бракуе.

Аднак амаральным учынкам, з прычыны якога дэкан Ташкінаў даў згоду на звальненне Яўгена Малікава, стаўся ўдзел апошняга ў пратэстнай акцыі, за што міліцыя праз суд пакарала выкладчыка ў верасні адміністрацыйным арыштам.

– Любы выкладчык нашага ўніверсітэта, вольна ці нявольна, прыклад для студэнтаў, іхніх паводзін... Удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве лёг у аснову таго, што я даў згоду на звальненне Малікава з працы за амаральны ўчынак, – сведчыў дэкан.

– Вы падпісалі акт, у якім гаворыцца, што **факт прыцягнення** Малікава да адміністрацыйнай адназнасці з'яўляецца амаральным учынкам. Не ўдзел у акцыі пратэсту, а факт прыцягнення да адказнасці? – пытаўся ісцец.

– А я не бачу тут прынцыповай розніцы, – быў адказ.

– А ці ёсць розніца паміж супрацьпраўным і амаральным пасткупкам? – пацікавіўся Малікаў.

– Ёсць розныя правапарушэнні. Напрыклад, на чырвонае святло няўмысна праехаў. Але іншая справа, калі дэманстратыўна, не адчуваючы сваёй адказнасці за студэнтаў, для якіх вы з'яўляецеся прыкладам. І ў многім не таму, што вы валодаеце нейкімі асабістымі і прафесійнымі якасцямі, а таму, што вы з'яўляецеся выкладчыкам універсітэта і ганьбіце яго, – даваў водпаведзь дэкан Ташкінаў, паставіўшы, так бы мовіць, вагон наперадзе паравоза.

І ўжо на пытанне прарэктара Казакова, адказчыка па справе, дадаваў, што ў *«адукацыйным працэсе выхаванне займае не менш за 50 працэнтаў ад навучання»*.

## «Паводзіны... пад лупОй»

Да такіх жа прапорцый схілялася і сведка па справе, прарэктар па выхаваўчай працы ўніверсітэта транспарту **Галіна Чаянкова**, называючы выхаваўчую функцыю выкладчыка адной з галоўных. І працягвала, звяртаючыся да Малікава:

– Вашы паводзіны – яны заўсёды знаходзяцца пад лупОй (*вымаўлена з націскам на апошнім складзе. – **Аўт**.*). І не толькі вашы, але і мае, і ўсіх тых выкладчыкаў, якія працуюць. Сярод разнастайных метадаў выхавання, што прымяняюцца да студэнтаў, асабісты прыклад выкладчыка іграе вялікую ролю. Вы як выкладчык і куратар павінны падаваць прыклад сваім студэнтам, павінны выхоўваць, праводзіць з імі работу з пункту гледжання прафілактыкі няўдзелу, дакладней недапушчэння хоць якіх правапарушэнняў і злачынстваў. Павінны выхоўваць іншыя грамадзянскія якасці, павінны выхоўваць ў іх мараль і гэтак далей і таму падобнае.

Як ісцец Яўген Малікаў запытаўся ў Галіны Міхайлаўны, у чым жа выявілася «амаральнасць» яго ўчынку.

– Калі выкладчык выходзіць, скажам так, на несанкцыянаванае мерапрыемства з кракадзілам і адпаведным надпісам, то гэта як? Гэта ўласціва выкладчыку БелДУТ? Вы, калі ішлі, вы думалі пра гонар, імідж універсітэта? Мяркую, што не. Супрацьпраўны ўчынак для выкладчыка – гэта ўжо амаральны ўчынак.

Чаянкова заявіла таксама, што і з пасады намесніка дэкана Малікаў быў зняты ў свой час, бо *«досыць актыўна праяўляў сваю пазіцыю, якую многім у горадзе спрабаваў навязаць. Нагнала аскому прозвішча «Малікаў». Раз Малікаў так лічыць, значыць, і кіраўнікі горада, універсітэта і архітэктары павінны так лічыць»*.

## Сітуацыя і гуманітарная адукацыя

За разглядам іску Яўгена Малікава ў судзе назіраў рэгіянальны прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага камітэта, дацэнт аднаго з універсітэтаў горада **Віктар Адзіночанка**. Паводле яго слоў, працэс яму быў цікавы як праваабаронцу і выкладчыку.

Нашага суразмоўцу асабліва закранула пытанне матывіроўкі звальнення Яўгена Малікава – як тлумачылі прадстаўнікі БелДУТ, за амаральны ўчынак.

– На мой погляд, гэта сведчыць пра страшны заняпад гуманітарнай адукацыі ў нашай краіне. Людзі проста не разумеюць, што такое мараль, маральнасць. Загад абсалютна непісьменны. Прадстаўнікі ўніверсітэта не могуць толкам патлумачыць: у чым амаральнасць учынку выкладчыка менавіта з пункту гледжання маралі? – кажа Адзіночанка.

Праваабаронца не выключае, што была ўстаноўка – звольніць актыўнага выкладчыка, адлучыць яго назаўсёды ад універсітэта.

– Заяўляюць, – працягвае праваабаронца, – што вось ён там удзельнічаў, гэта амаральна, яго пакаралі. Гэта памылкова. Маральнасць паводле іншых крытэрыяў ацэньваецца. Розніца паміж мараллю і правам прапісана ў падручніках. Ці амаральна паступіў выкладчык, узяўшы ўдзел у пратэстах? Ён жа тым самым выказаў сваю грамадзянскую пазіцыю! Калі з яго боку не было нейкіх антычалавечых, расісцкіх поглядаў, праяў дыскрымінацыі, то мы не можам казаць, што яго ўчынак амаральны. Выкладчык не спажываў алкаголь, не ўжываў наркотыкі, не біў вітрыны, не хуліганіў нейкім іншым чынам. Магчыма, прыхільнікі ўлады з яго поглядамі і не згодныя, але гэта ўжо палітычны аспект. Выкладчык удзельнічаў у мірнай акцыі, што гарантавана Канстытуцыяй.

На думку дацэнта Адзіночанкі, склалася парадаксальная сітуацыя: грамадзяне не згодны з вынікамі выбараў, яны маюць свае погляды, адрозныя ад афіцыйных, а выразіць іх не маюць магчымасці, апроч як праз мірныя пратэсты. Улады за гэта караюць.

– Альбо ты сядзіш дома і не адчуваеш сябе грамадзянінам Беларусі, што не ёсць прыкметай высокай маралі, альбо выходзіш на вуліцу. Яшчэ Платон заўважыў, што грамадзянская пасіўнасць спараджае ўладу злачынцаў, – зазначае Віктар Адзіночанка.

Праваабаронца, сам ісцец і яго прадстаўнікі з Белпрафтранса звяртаюць таксама ўвагу, што пры звальненні выкладчыка рэктарат БелДУТ парушыў патрабаванні заканадаўства: пісьмовы запыт наконт дачы згоды на звальненне ў прафкам не накіроўваўся, прафкам пасяджэння не праводзіў, пастановы не прымаў. Дапытаны ў судзе старшыня прафкама ўніверсітэта транспарту **Віктар Рыжанкоў** паясняў у судзе, што ён даваў згоду ад імя прафкама, подпіс яго ёсць пад загадам. Некаторыя іншыя члены прафсаюзнага камітэта, паводле слоў Рыжанкова, сваю згоду пацвердзілі подпісамі пад запіскай: хто ў дзень выдання загада рэктара, хто напярэдадні.

Грамадскі актывіст і палітык **Васіль Палякоў**, які сочыць у горадзе за пераследам удзельнікаў пратэстных акцый, а таму наведвае суды, звяртае ўвагу на відавочную паспешлівасць у звальненні выкладчыка Малікава пасля ліста з міліцыі. Ідзе маштабная кампанія пераследу іншадумства, і тут любое лыка вяжуць у строчку. У дадзеным выпадку – амаральным робяць удзел выкладчыка ў мірнай акцыі пратэсту грамадзян супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў і гвалту з боку сілавікоў.

– Я бачу, – дадае Палякоў, – чым менш ва ўчынках людзей маралі, тым больш яны імкнуцца пра гэта гаварыць. Маральная перавага на баку Яўгена Малікава – ён заявіў пра сябе як грамадзянін, ён не абыякавы да таго, што адбываецца ў краіне, ён скарыстаўся сваім канстытуцыйным правам на мірныя сходы. А прадстаўнікі ўніверсітэта кажуць у судзе, што гэта няправільна, што гэта супраць маралі. Прыкра гэта ўсё слухаць, бо гэта не той узровень, які варты выкладчыка вышэйшай навучальнай установы.

Дык хто які прыклад студэнтам падае?

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

*Гомель.*

**P.S.** Суддзя суда Чыгуначнага раёна Гомеля **Кацярына Календа** сваім рашэннем адхіліла іск Яўгена Малікава да рэктарата БелДУТ наконт аднаўлення на працы, скасавання вымовы за допіс у Facebook і выплаты маральнай шкоды. Звольнены выкладчык вырашыў аспрэчыць вырак у вышэйшай інстанцыі. Абласны суд пакінуў вердыкт К.Календы ў сіле. Застаецца звярнуцца з апеляцыяй у Вярхоўны суд.

ТРЕВОЖНО!

# В ООН обеспокоены усилением репрессий против правозащитников в Беларуси

*Об этом 19 марта заявила **Мэри Лолор,** специальный докладчик ООН по вопросу о положении правозащитников, сославшись на два случая репрессивных действий в отношении граждан Беларуси, сотрудничавших с ООН в вопросах защиты гражданских прав.*



*«Облавы в офисах, аресты правозащитников и воспрепятствование работе адвокатов стали обычной практикой»,* – сообщила Лоулор.

Лоулор сообщила о репрессиях в отношении **Сергея Дроздовского** и **Олега Граблевского** из белорусской неправительственной организации «Офис по правам людей с инвалидностью», которые сотрудничали с Управлением ООН по правам человека.

*«Их лишили свободы в связи с их правозащитной деятельностью,* – сказала Лоулор, – *Дроздовского, директора организации и инвалида-колясочника, подвергли мучительному семичасовому допросу, а юрисконсульту Граблевскому приказали снять одежду во время допроса... Эти инциденты свидетельствуют о продолжении и ухудшении ситуации, сложившейся в Беларуси после президентских выборов в августе прошлого года».*

**Жерар Куинн**, специальный докладчик ООН по правам людей с ограниченными возможностями, также выразил обеспокоенность в связи с преследованием правозащитников в Беларуси. По словам эксперта, **Мария Рабкова**, координатор работы волонтеров незарегистрированного правозащитного центра «Весна», которую арестовали в сентябре прошлого года, столкнулась с дополнительными обвинениями.

Четыре сотрудника «Пресс-клуба Беларусь», документировавшие репрессии против журналистов, недавно были задержаны по обвинению в уклонении от уплаты налогов. Еще один сотрудник «Пресс-клуба» был депортирован в Россию.

По словам Лоулор, большинству задержанных предъявлены экономические обвинения, что вызывает у нее серьезные опасения по поводу надлежащей правовой процедуры.

Лоулор призвала официальный Минск к снятию всех ограничений для гражданского общества. *«Когда заставляют замолчать правозащитников, работников СМИ и адвокатов, предполагаемые нарушения прав остаются незамеченными и не расследуются»,* – сказала она.

Эксперт ООН находится в контакте с властями Беларуси по всем этим вопросам.

НОВОСТИ СЛОВАКИИ

## В отпуск за границу – нельзя

*Жителям страны будет временно запрещено проводить отпуск за границей, об этом сообщил исполняющий обязанности министра здравоохранения Словакии Эдуард Гегер.*

В тексте постановления правительства указано, что запрещен выезд за границу «в рекреационных целях», однако сами по себе поездки за границу не будут запрещены.

По словам Гегера, такое решение было принято для того, чтобы уравновесить требования о запрете на выход из дома (комендантский час). На данный момент жителям Словакии запрещено перемещаться внутри страны между разными округами, но при этом разрешено выезжать за рубеж без ограничений.

Эдуард Гегер отметил, что запрет не коснется людей, у которых есть необходимость выехать за пределы Словакии. Нововведение, например, не должно коснуться «пендлеров» – людей, которые регулярно выезжают на работу за пределы страны. В качестве примера и.о.министра также привел ситуацию, когда человек имеет за рубежом недвижимость, которая требует срочного ремонта.

## Безработные восстановят культурное наследие

*Министерство культуры Словацкой Республики в сотрудничестве с Министерством инвестиций, регионального развития и информатизации будут привлекать безработных к восстановлению объектов культурного наследия страны.*

Размер поддержки некоммерческих организаций, общественных объединений или агентств регионального развития составляет от 10 тысяч до 50 тысяч евро. По словам госсекретаря MIRRI SR **Владимира Ледецкого**, программа позволяет длительно трудоустроить безработных, восстановить историко-культурное наследие и одновременно начать развитие туризма.

## Курорт для реабилитации после COVID-19

*Самый популярный бальнеотерапевтический курорт Словакии «Бардееевские купели» (Bardejovské Kúpele) открыл программу реабилитации пациентов, перенесших коронавирус.*

На курорте им помогут в том числе минеральные ингаляции, для которых используют воды Herkules и František. Курорт использует лазерную терапию в сочетании с магнитотерапией для реабилитации после заражения COVID-19, что вместе с ингаляциями должно помочь пациентам устранить последствия заболевания. По словам медиков, реабилитацию следует начинать как можно скорее, в идеале в течение четырех месяцев после преодоления болезни. К наиболее частым осложнениям относятся сильная утомляемость и истощение, удушающий кашель, одышка. Отправка пациентов на реабилитацию стала возможной с 9 марта на основании решения Министерства здравоохранения после назначения процедур врачом и одобрения страховой компанией.



ЧЕШСКИЙ АКЦЕНТ

# Партия Андрея Бабиша теряет поддержку избирателей

*8 и 9 октября 2021 года в Чешской Республике состоятся парламентские выборы.*



Социологические опросы, проведенные в мае 2020 года, показали, что избиратели отдают предпочтение движению ANO во главе с премьер-министром Чехии Андреем Бабишем. Однако за истекшее время оно потеряло значительную часть своей поддержки. Зато Česká pirátská strana и партия STAN укрепили свои позиции.

Данные для последней избирательной модели выборов сотрудники агентства Kantar CZ собирали с середины февраля по 5 марта. Таким образом, частично был включен период, когда правительство объявило о новых, более строгих противоэпидемических мерах, включая ограничения на передвижение между областями страны и полное закрытие школ.

Движение ANO давно сохраняет лидирующие позиции в электоральных моделях Kantar CZ. В марте прошлого года за эту партию готовы были голосовать около 35% избирателей, однако с того времени уровень поддержки ANO постоянно снижается.

Если сравнивать отдельные политические движения, то за партию Piráti сейчас бы проголосовали 22% избирателей, за ANO – 20,5%. По сравнению с предыдущим исследованием, позиция партии Piráti улучшилась всего на 1%, а число потенциальных избирателей ANO сократилось на 5,5%. В текущей модели движение STAN находится на третьем месте с показателем 13% голосов, за SPD готовы проголосовать 10,5%, за ODS – 9,5%. Примерно по 5% голосов получили бы партии TOP 09, KSČM, ČSSD и KDU-ČSL и другие.

Однако ожидается, что некоторые партии будут участвовать в осенних выборах в составе коалиции, поэтому агентство Kantar CZ подготовило соответствующую избирательную модель. В этом случае коалиция партий Piráti и STAN наберет 34% голосов, движение ANO – 22%, а коалиция SPOLU (партии ODS, KDU-ČSL, TOP 09) – 17,5% голосов. Доля SPD составила бы 11%, а KSČM, ČSSD и остальные партии набрали бы не более 5% голосов.

# Сенат отклонил предложение о квотах на местные продукты в супермаркетах

Сенат Чешской Республики отклонил поправку к закону, согласно которой продуктовые магазины площадью более 400 квадратных метров должны продавать обязательный минимум продуктов чешского производства. Эту поправку предложила в прошлом году группа из двух десятков депутатов от партий ANO, ČSSD, KDU-ČSL, ODS, KSČM и SPD.



Согласно поправке, с 2022 года на полках магазинах должно было быть не менее 55% чешских продуктов питания, а к 2028 году – не менее 73%. Квоты должны были охватить более ста видов из более чем 15 тысяч продаваемых продуктов и касаться, например, продажи яиц, меда, цветной капусты, чеснока, говядины, свинины и баранины. Квота также должна охватывать рапсовое и подсолнечное масло, молоко, сыр и творог.

Эту поправку к закону о пищевых продуктах депутаты чешского парламента приняли в январе 2021 года. *«Давайте будем немного националистами, когда речь идет о продуктах чешского сельского хозяйства и нашей страны»,* – сказал министр сельского хозяйства **Мирослав Томан**, выступая ранее в Палате депутатов. Через несколько часов после голосования в парламенте премьер-министр **Андрей Бабиш** заявил, что не поддерживает принятую форму закона: *«Я не инициировал поправку и не поддерживал это предложение. Я считаю его совершенно ненужным политическим жестом, который противоречит функционированию внутреннего рынка Европейского Союза».*

После принятия поправки закон должен был утвердить Сенат Чехии, однако, верхняя палата парламента его отклонила. Вчера на заседании Сената Мирослав Томан также пересмотрел свое мнение и в результате выступил против принятия законопроекта.

*«Против квот на продукты выступают послы восьми стран ЕС. По их словам, это явная дискриминация»,* – заявила сенатор от ODS **Мирослава Немцова**.

*«Действительно, квоты противоречат европейскому законодательству»,* – сказал **Ярослав Ветровски**, сенатор от партии ANO.

Сенат вернул закон для повторного рассмотрения в парламенте. Поскольку большинство депутатов от партии ANO теперь выступают против его принятия, шансов для его утверждения практически нет.

# Резервов государственных медицинских страховых компаний Чехии хватит до конца года

После этого система государственного медицинского страхования в Чехии может столкнуться с трудностями. Об этом сообщил министр здравоохранения **Ян Блатны**. Сейчас на счетах страховщиков около 64 миллиардов крон.

Из этой суммы около 10 миллиардов крон будут потрачены на вакцинацию против коронавируса, еще 11 миллиардов крон – на выплату вознаграждений медицинским работникам и несколько миллиардов – на тестирование сотрудников чешских компаний.

Пока не ясно, изменится ли ситуация за счет развития экономики или потребуется дополнительное финансирование за счет увеличения взносов на медицинское страхование.

*«Мы предполагали, что система государственного медицинского страхования будет стабильной до 2023 года, но это не так. Она будет стабильной максимум до конца этого года»,* – сказал Блатны. Министр ожидает, что убытки страховых компаний вырастут – расходы на медобслуживание будут превышать собранные страховые взносы. Ситуация может измениться в лучшую сторону только к концу года.



Из 64 миллиардов крон на счетах всех семи государственных медицинских страховых компаний около 40 миллиардов находятся в основном резервном фонде, который используется для покрытия расходов на медицинское обслуживание застрахованных.

# В университетах стало больше иностранных студентов

*Несмотря на пандемию коронавируса, количество иностранных студентов в чешских университетах в 2020 году увеличилось примерно на 8% – до 50 тысяч человек. Одной из причин, по мнению экспертов, является возможность зачисления в вузы и обучения в них дистанционно.*

В 2019 году в чешских вузах обучались 46,3 тысячи иностранных студентов, а в 2020-м – свыше 50 тысяч. Всего в стране в 2019 году насчитывалось 288,6 тысячи студентов, а в прошлом году – 299,4 тысячи. Количество студентов-иностранцев за год увеличилось примерно на 0,7 процентного пункта (до 16%), сообщила **Радка Вавроушкова** из Дома международного сотрудничества (DZS).



В том числе количество студентов из России, Индии и Ирана увеличилось примерно на 20%. В прошлом году в Чехии обучались 8025 студентов из России, 1916 – из Индии и 739 – из Ирана. Большинство из них проходят обучение на чешском языке. Более чем на 10% увеличилось количество учеников из Украины, Казахстана и Беларуси (всего таких студентов было 5429 в 2020 году).

Из-за противоэпидемических мер в различных странах снизилось количество иностранных студентов, находящихся на краткосрочной стажировке. По данным Министерства образования, если в 2019 году в Чешскую Республику приехали учиться 15.813 студентов, то в прошлом году их было всего 9740 (на 38% меньше).

Аналогичная тенденция наблюдается и в отношении студентов, уезжающих из Чехии за границу на учебу. Их количество снизилось на 35% – с 10.429 в 2019-м до 6808 в прошлом году.

ВАКЦИНАЦИЯ

# Почти 67% взрослых израильтян полностью привиты от коронавируса

По данным Минздрава Израиля на 19 марта, первую дозу вакцины против коронавируса получили 5.150.505, вторую дозу – 4.480.810 человек.

Полностью вакцинированы более 48% населения страны и около 67% взрослого населения (старше 16 лет). Первую прививку получили около 56% израильтян, около 77% взрослого населения.

Больничные кассы приглашают на вакцинацию всех граждан старше 16 лет.

1 марта Министерство здравоохранения разрешило больничным кассам делать прививку от коронавируса лицам, переболевшим коронавирусом, при условии, что им исполнилось 16 лет и что с их выздоровления прошло более 3 месяцев. Они получают только одну дозу вакцины для закрепления иммунного ответа.

Вопрос о вакцинации несовершеннолетних обсуждается. Проводятся исследования.

Ресурс *OurWorldInData* опубликовал данные по темпам вакцинации в различных странах: в топ-10 вошли Чили, Израиль, США, Катар, ОАЭ, Бахрейн, Великобритания, Сербия, Венгрия, Марокко.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Застацца можна без кватэры, хаця і грошай да халеры

У Кобрыне сямейная пара 10 гадоў прадавала адну і тую ж кватэру. У каго ўзялі 5 тысяч рублёў задатку, у каго – яшчэ больш… У апошні момант "прадаўцы" знаходзілі прычыну, каб адмяніць здзелку, а грошы не вярталі. Цікава, што пара ўвогуле не магла прадаць кватэру, бо яна была пабудавана пры дапамозе льготнага крэдыту.

Калі пад вечар чарку бралі
(Каньяк пілі – не самагон!),
Дык з векавечнымі сябрамі
Дзяліўся радасцю Антон:
– Я зажыву ў кватэры новай –
Купіць збіраюся, сябры!
Яна на вуліцы Садовай
У доме нумар сорак тры.
Ва ўсякім разе пазаўчора
Аддаў задатак прадаўцам…
Узнёслы водгук ад Рыгора:
– І я ж куплю кватэру там!
Жытло вялікага памеру,
І надта ж месца па нутру.
Занёс таксама за кватэру
Задатак я гаспадару.
Калі аформім мы паперы,
Падпішам іх праз нейкі час,
Я стану ўласнікам кватэры!
Здзівіў жа канчаткова Стас,
Калі паведаміў з імпэтам:
– Сябры, паверыце ці не,
Але таксама ў доме гэтым
Кватэра з'явіцца ў мяне.
Мы дваццаць год ажно
з "паловай"
Збіралі грошы пакрысе,
І заўтра ў дом, што на Садовай,
Задатак жонка панясе.
Дык то ж, сябры, такое дзіва,
Што хоць вушам сваім не вер!
Хадзіцьмем разам мы на піва –
Лічы, суседзі ўжо цяпер.
Яны натхніліся, вядома,
І парашылі як адзін:
– А пойдзем мы, сябры, да дома,
Свае кватэры паглядзім!
Зірнуць адным, як кажуць,
вокам
Дазволяць нам гаспадары!
Зігзагамі, няцвёрдым крокам
Да дома рушылі сябры.
Антон, канешне,
першым крочыў –
Ён вёў у хеўры гэтай рэй.
Ва ўсіх на лоб палезлі вочы,
Калі спыніўся ля дзвярэй.
Сказаў:
– Вось тут я жыцьму з часам
Ужо з наступнае зімы.
Усклікнулі Рыгор са Стасам:
– Дык тут жа будзем жыць і мы!
Пасля надоўгае разборкі
Застылі ў ступары, калі
Яны зрабілі вывад горкі,
Што іх "на грошы развялі".
Нагамі грукаталі ў дзверы,
І чуўся іхні гнеўны крык,
Ды быццам вымерлі ў кватэры –
Ніхто ім дзверы не адкрыў,
Таму і не дайшло да бойкі.
Шукаць ім праўду трэба дзе?
Пайшлі ахвяры (не апойкі!)
У міліцэйскі райаддзел.
А там намёк зрабілі тонка:
Такіх, як вы, не два, не тры;
Даўно махляраць муж і жонка –
Кватэры той гаспадары.
І мы паціху шыем справу,
І неўзабаве будзе суд.
І ўсё часцей такую яву,
На жаль, мы назіраем тут…
***
Займець не здолелі ахвяры
Закутак, так бы мовіць, свой.
Затое для сямейнай пары
Прытулкам, можа,
стануць нары –
Усё-ткі дах над галавой.
Прывёў я гэты прыклад яркі,
Каб зналі малады і стары,
Як іх ашукваюць махляркі
І прайдзісветы-махляры.
Іх развялося да халеры!
Дык варта запісаць на лбе:
Не кожнаму давайце веры!
Парою нават і сабе…

ПАМЯЦЬ

# ЯГО ЗЯМНЫ СЛЕД

**1**

Два гады таму ў Брэсце выйшла кніга вершаў на беларускай і рускай мовах **Аляксандра Кавальчука** *«Всё, что осталось за кадром»*. Так сталася, што гэтае выданне аўтару не давялося ўзяць у рукі: яно аказалася пасмяротным. Шкада! Алесь, як мы, літаратары, усе яго называлі, безумоўна, парадаваўся б і, пэўна, з новым, прыўзнятым, настроем натхнёна ўзяўся б за пяро.

Зборнік шчодра аздоблены ілюстрацыямі знакамітага брэсцкага мастака Аляксандра Алонцава. Душой відушчы майстар стварыў каларытны блакітна-сіні колер для вокладкі, намаляваўшы ўнізе якар з неадрыўнымі ад яго літарамі імя і прозвішча – *А.К.* З якарам адмыслова скрыжаваў высокае гусінае пяро... Усё вельмі дарэчы, бо аўтар кнігі распачаў сваю творчасць якраз на флоце, дзе ажно пяць гадоў адслужыў маракам-падводнікам. А якар свайго жыцця ён кінуў на радзіме. Помніцца, Алесь, калі вярнуўся з войска, чытаў у рэдакцыі «Зари над Бугом» свае вершы, у якіх чулася дыханне мора і супрацьстаянне грознай марской стыхіі з боку смелых і моцных духам людзей. Завяршаючы гаворку пра вонкавы выгляд кнігі, скажу: мастак не паскупіўся на фантазію і колеры, фарбы, каб арыгінальна аформіць усе яе адзінаццаць раздзелаў.

Зборнік А.Кавальчука рыхтавала да друку яго дачка Галіна. Яна коратка і выразна, па сутнасці таленавіта распавяла пра тое, які быў у яе вачах бацька як творца і як сем'янін, пра яго глыбокае пачуццё любові і павагі да вернай спадарожніцы і памочніцы – жонкі Таццяны. Галіна сцвярджае: *«У тым, што кніга ўбачыла свет, немалая заслуга мамы»*. Яна вельмі ахоўна ставілася да паэтычнай справы Алеся. Не раз выпадкова знаходзіла ў ягоных закінутых журналісцкіх нататніках, а часам і перад мыццём бялізны ў кішэнях кашуль і нагавіц складзеныя ў некалькі разоў аркушыкі з вершамі. «Ну вось, ледзь не памылала!..» – усміхалася яна і акуратна разгортвала адзін-другі лісток, разгладжваючы іх цёплай далонню. Хочацца сказаць: «Дзякуй, Галіна, за такую светлую памяць!»

Выданне гэтае абагрэта яшчэ адным шчырым сэрцам – сэрцам выдатнага паэта і нястомнага тэлежурналіста Міколы Пракаповіча, які стаўся рэдактарам першай і апошняй кнігі А.Кавальчука і аўтарам прадмовы да яе. Шматвопытны творца яскрава піша пра жыццё, працу калегі, доказна абгрунтоўвае яго двухмоўнасць, выказвае сваё ўражанне пра творчасць прыбужскага літаратара, прасочвае ў ёй натуральны паварот да беларускасці.

Поруч з Міколам не адно дзесяцігоддзе Алесь працаваў на тэлестудыі. Як трапна выказваецца аўтар прадмовы, *«рамантык-авантурыст, Алесь замахваўся, здавалася б, на нерэальныя па тым часе праекты і нейкім незразумелым чынам ажыццяўляў іх. Ён мог неаднойчы наведаць у Зорным гарадку касманаўта-земляка Пятра Клімука, сустрэцца з землякамі на будаўніцтве Байкала-Амурскай магістралі»*. Так, гэта быў ініцыятыўны журналіст. І акурат яго некароткія дарогі, нярэдкія тэлевандроўкі спрыялі напісанню вершаў, па змесце і настроі рамантычных.

Дзякуючы Міколу Пракаповічу я даведаўся, што Алесь Кавальчук у 1999 годзе развітаўся з тэлебачаннем, набыў хутар з ладным кавалкам зямлі і *«сваё апошняе дзесяцігоддзе правёў самотнікам. Араў і сеяў, шчыра радаваўся ўраджаю»*. Як сапраўдны лірык, ён заявіў і пра гэтую жыццёвую перамену:

*Пакуль жыву – я не шкадую,*
*Што сам араты і касец.*

У прадмове Міколы Пракаповіча ёсць такая думка: *«Менавіта там, на вясковым хутары за некалькі дзясяткаў кіламетраў ад Брэста, як мне падаецца, да Алеся напоўніцу вярнуўся ягоны спадчынны* ***Пачатак:*** *разам з бэзавай тутэйшасцю, валошкамі на ўзмежку жытнёвага поля... У суладдзі з прыродай натура набывала цэласнасць, а душа – гармонію»*. Мне імпануе, што да Алеся Кавальчука прыйшло паўнакроўнае адчуванне непаўторнай Бацькаўшчыны кожнай тканкаю сэрца і разуменне безумоўнай прыналежнасці да яе:

*Палі Радзімы!*
*Перазвон гаёў,*
*Імшары пушчаў у барвовым золку.*
*Усё маё. Да кропелькі маё,*
*Да верасінкі, лісціка, да зоркі.*

Адлюстраванае тут цэльнае, трывалае пачуццё падмацоўваецца яшчэ шэрагам твораў, да прыкладу, такімі: «Я зачараў табою, восень...», «Старыя гнёзды ў верхавінах дрэў...», «Прылашчыцца да ног Беразіна...».

**2**

Алесь Кавальчук у маёй памяці – аптыміст. Памятаю яго адчуванне гумару, вясёлы і азартны смех, прыгожае аблічча, упартую шавялюру. Сустракаліся мы з ім пераважна на тэлестудыі, нашай агульнай працоўнай тэрыторыі на пачатку сямідзясятых, на літаратурных вечарынах, на пасяджэннях літаб'яднання ў рэдакцыі газеты «Заря». Аднаго разу быў у яго ў гасцях дома, нават гуляў у шахматы з ім і з Таццянай, ягонай жонкай. Застаюцца ўспаміны і падораны яго дачкою, з якой мы ніколі не сустракаліся, весь гэты паэтычны зборнік «Всё, что осталось за кадром». Тут ёсць творы, якія прачытаеш – і хочацца перачытаць. Такі, напрыклад, верш «Багацця вялікага не маю...».

Што ж чалавек называе ў якасці багацця? Мо які каштоўны метал? Модную машыну? Нейкія экзатычныя сувеніры? Ды не! Ён называе рэчы простыя: «Хату, што засталася ад бацькоў, старую студню з крынічнаю вадою, садок з антонаўкай пахкою...» А затое да яго заходзіць сусед, якіму вадаправод ужо выеў душу. *«А тут вада, што зубы ломіць, а кубак вып'еш – сэрца зашчыміць»*. Добрым суседзям заўсёды ёсць пра што пагаманіць. Прадметам гаворкі могуць быць любыя рэчы і з'явы. Як кажа паэт: *«Ад дзедаўскай рыдлёўкі да вышынь касмічных...»* А на старой антонаўцы можна праверыць закон, што некалі адкрыў Ньютан... Цікавы сваёй нечаканасцю фінал верша:

*Галінку ўскалыхну –*
*і яблыкі ляцяць у росны ранак*
*– Бяры кашы і падбірай –*
*Ну чым не рай?!*

У раздзеле «Гэта ўсё пра цябе» звяртае на сябе ўвагу верш «У Каляды шчодрыя», тут ёсць такія радкі: *«Я і прыгалублю, // Я і абагрэю, // У студзень наш халодны / Расцвіцеш лілеяй»*. Завяршаецца раздзел шчымлівымі творамі – «Ты пакліч мяне...» і «Я іду да цябе праз гады і вёрсты».

**3**

Трэба аддаць належнае рускамоўным вершам А.Кавальчука, якія занялі крыху больш за палову зборніка. Тут самы аб'ёмны раздзел, так сказаць, марскі, напісаны маладым паэтам, калі ён праходзіў вайсковую службу на Паўночным флоце. 22 творы, як правіла, нешматслоўныя і яскравыя, як вось гэты васьміpадковік, дзе цэлы каскад паэтычных вобразаў:

*Спит залив дождливой ночью,*
*Спят немые берега.*
*Тучи разорвав на клочья,*
*Месяц высунул рога.*
*Опустив ресницы-шторы,*
*Окна в городе уснули.*
*Лишь тревожно дремлют штормы,*
*Как уснувший шумный улей.*



Ёсць у названым раздзеле і ўзрушальны верш «Не буди меня, мама...». Сын – марак-падводнік, які не вярнуўся дамоў і які ў сваім вечным сне бачыць затанулую лодку, сваіх аднагодкаў, просіць матулю супакоіцца і не трывожыць яго:

*Не ходи по погостам, не ищи ты*
*мой холмик,*
*Ты ведь знаешь, могила не там.*
*…………*
*Мой последний причал далеко*
*в Заполярье,*
*Глубоко, глубоко под водой.*

У іншых рускамоўных раздзелах уражваюць вершы: «В подражание С.Есенину», «Оставить след свой на земле...», «Всё начинал ты с чистого листа...».

**4**

Пасля пераезду ў Мінск я доўгі час Алеся не бачыў, а сустрэў нейк зусім састарэлага і запаволенага. Гэтак ён змарнеў пасля таго, як страціў Таццяну.

І вось чытаю ў кнізе:

*Небо задождило, задождило.*
*Нет начала и конца слезам.*
*Постою я над твоей могилой,*
*Скорбным поклонюсь крестам.*
*Ты не спросишь, что хожу*
*так редко,*
*Ты не спросишь и не упрекнёшь.*
*А с венка, с еловой тонкой ветки,*
*Чистою слезою плачет дождь.*

Гэты верш стаіць напрыканцы кнігі. Відаць, пасля цяжкай страты змаўкала ліра паэта. Але нельга не заўважыць наступнага твору – ён такі дасканалы і незвычайны, што хачу прывесці амаль цалкам:

*Не приходи, костлявая, с косой.*
*Приди, мой Ангел, в белоснежном*
*платье.*
*И улыбнись, и за руку возьми,*
*И поведи на суд – не на распятье.*
*Я, не жалея, крест свой понесу*
*До той черты, что называем краем.*
*Суди, мой Боже,*
*праведный твой суд.*
*Каким он будет? Я – не знаю...*

Так, ніхто не ведае, што – ТАМ. Думаецца, аднак, што людзей, якія набліжаюцца да сваёй апошняй мяжы, бярэ не толькі смутак, а і трывога, адчай, страх. Нічога падобнага мы не бачым на духоўным абліччы паэта, бо фінальныя словы верша – такія:

*Пошли, мой Ангел...*
Он ответил: – С Богом!

Такім чынам, Алесь Кавальчук быў і застаўся да апошняга радка лірыкам-рамантыкам.

**Васіль ЖУКОВІЧ, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

***Паважаны Іосіф Паўлавіч!***

***Як Вы ведаеце, імёны паэтаў не акантоўваюць жалобнымі рамкамі. Пакуль мы чытаем іх вершы, яны жывыя, яны побач з намі.***

***На ўгодкі смерці Ніла Сымонавіча Гілевіча ў мяне атрымаўся тэкст невялічкага артыкула. Калі палічыце магчымым, то можаце размясціць яго на старонцы «Народнай Волі».***

**Георгій ГАЦКЕВІЧ. в.Бараўляны Мінскага раёна.**

# Як я не зразумеў Ніла Гілевіча

Падчас навучання ў Смалявіцкім педагагічным вучылішчы (пазней яно было пераведзена ў Мінск) я пазнаёміўся з Эдуардам Юльянавічам Грахаўцом, паэтам-пачаткоўцам з Лагойшчыны. Яго вершы друкаваліся ў раённых газетах.

Пасля заканчэння педвучылішча нашы шляхі разышліся. Час ад часу на паліцах кнігарняў я шукаў сярод кніг вершаў прозвішча майго сябра, але дарэмна. А асабістая сустрэча з ім адбылася толькі напрыканцы лета 1999 года ў Бараўлянах, што побач са сталіцай. І абставіны былі даволі сумныя – цяжкае захворванне Эдуарда. Ён пацвердзіў, што выдаць зборнік сваіх вершаў яму не давялося па розных прычынах. Тады я яму сказаў, што зараз выдаць кніжку няцяжка: было б жаданне і трохі грошай. Мая прапанова была прынята, і праз месяц ён перадаў мне агульны сшытак з вершамі; акрамя гэтага, магчыма, адчуваючы непазбежнае, на працягу трох месяцаў напісаў яшчэ шмат твораў. Апошні з'явіўся 1 студзеня 2000 года, а 5 лютага Эдуарда не стала.

Выконваючы абяцанне, дадзенае Эдуарду, я як мог, па сваім разуменні апрацаваў яго рукапіс. І тут у мяне з'явілася думка: а ці не паказаць вершы Эдуарда Грахаўца больш дасведчанаму чалавеку? Мабыць, з прычыны асабістага «нахабства», я вырашыў звярнуцца да Ніла Гілевіча. Расстараўся нумар яго хатняга тэлефона. Пазваніў, выказаў сваю просьбу. Што я мог пачуць у адказ? Верагодней за ўсё, карэктную адмову. Магла быць спасылка на занятасць, на стан здароўя (пазней я даведаўся, што Ніл Сымонавіч незадоўга да гэтага перанёс інфаркт) і г.д. Ды ўвогуле губляць час на рукапіс незнаёмага чалавека, магчыма, графамана – навошта? Але я пачуў адно толькі слова: «Прыязджай!»

Ніл Сымонавіч з вялікай чуласцю і тактам паставіўся да рэдагавання вершаў паэта-земляка. Такім чынам зборнік Эдуарда Грахаўца пад назвай **«Вяртанне»** ўбачыў свет у выдавецтве «Лекцыя» напрыканцы 2000 года. У прадмове Ніл Гілевіч напісаў: *«Усцешымся тым, што народжаныя ў душы і сэрцы Эдуарда Грахаўца радкі не загінулі дзесь бясследна, што і па смерці паэта яны ўсё ж прыйшлі да чытача і скажуць яму нямала добрага, светлага, чалавечнага»*.

А зараз хачу звярнуць увагу на некаторыя моманты ў працэсе падрыхтоўкі тэксту зборніка «Вяртанне» да выдання.

На палях рукапісу побач з тэкстам верша Ніл Гілевіч ставіў такія пазнакі: «Добра», «Не ўключаць», знак «+», знак «-» і іншыя.

Побач з адным вершам было напісана «Нічога нельга зрабіць!», і ён не быў уключаны ў зборнік. Гэты кароткі верш я памятаў з часоў педвучылішча і лічыў даволі добрым, час ад часу зачытваў сябрам і знаёмым, называючы імя аўтара. Вось ён:

*Стаіць рабіна над ракой.*
*Стаіць, вачэй не зводзячы.*
*Губляю ў сэрцы я спакой,*
*Каля яе праходзячы.*
*Хаджу, гляджу, не знаю сам,*
*Чаму вось так здараецца,*
*Што ля яе другім хлапцам*
*Дзяўчына ўсміхаецца!*

Шмат гадоў пасля выдання зборніка вершаў Эдуарда Грахаўца мяне не пакідала думка: чаму ж Ніл Гілевіч не раіў уключаць гэты верш у зборнік? Я нават аднойчы звярнуўся з гэтым пытаннем да Сяргея Законнікава. Ад яго я пачуў прыблізна такі адказ: «Ну хто ж яго ведае…» Скажу шчыра, карцела мне пачуць тлумачэнне ад самога Ніла Сымонавіча, але саромеўся я звяртацца да яго, а затым было ўжо позна.

Але, я ўпэўнены, сітуацыя ў рэшце рэшт высветлілася. Мая сястра, калі я ёй прачытаў узгаданы верш і «рэзалюцыю» Ніла Гілевіча, сказала: «Дык ты ж не зразумеў Ніла Сымонавіча! Ён адзнаку не вершу даваў, а сітуацыі! Калі дзяўчына цябе не кахае, а ўсміхаецца іншым, то што тут паробіш!»

На заканчэнне хачу прапанаваць чытачам апошні напісаны Эдуардам Грахаўцом верш. У рукапісе побач з ім Ніл Гілевіч паставіў тры клічнікі. Чым яго ўразіў гэты верш? Можа, тым, што ў ім выказана філасофія нашага жыцця ці сум аб тым, што ўжо не вернецца? Вось аб гэтым мы ўжо ніколі не даведаемся.

*Недалёка каля вёскі*
*Вечар вып'е шэры птах,*
*І згараць употай вёсны*
*Сівізною на платах.*
*Будзе некаму нялёгка,*
*Што ўжо вечар выпіў птах.*
*Будзе блізка і далёка*
*Шэры попел на платах...*

**Георгій ГАЦКЕВІЧ.**

